# Голас Радзімы

№ 44 (2134)
2 лістапада 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**Беларускае таварыства «Радзіма» было адной з тых арганізацый, якія падпісалі летам гэтага года зварот да суайчыннікаў ва ўсіх кутках свету з заклікам дапамагчы нашай рэспубліцы, нашаму народу ў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. І вось — першая ластаўка: наш зямляк Міхаіл МЕЛЬНІК (на здымку злева) разам з нямецкім пастарам Гансам ОЛЕШАМ у сярэдзіне кастрычніка прывезлі ў Мінск аднаразавыя шпрыцы і медыкаменты. Яны былі перададзены ў Беларускім таварыстве «Радзіма» ў пацярпеўшыя раёны Гомельскай і Магілёўскай абласцей.**
**Ці зробіць гэтая першая ластаўка пагоду! Пра гэта — у рэпартажы «Малітва Міхаіла Мельніка» (стар. 4).**

СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

## ПРЫНЯТЫ ВАЖНЫЯ РАШЭННІ

12-я сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, якая адбылася 25—27 кастрычніка ў Мінску, як ніколі, была багатая на эмоцыі, палеміку, выяўляла палярныя думкі. Нічога дзіўнага, калі ўлічыць праблемы, якія абмяркоўваліся, і час, які ўсё больш спрыяе публічнасці, дэмакратызацыі нашага жыцця. Пытанні, вынесеныя ў парадак дня сесіі, — аб дзяржаўнай праграме па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і аб змяненні і дапаўненні да закона аб выбарах народных дэпутатаў рэспублікі — выклікалі вострую дыскусію.

Дарэчы сказаць, што Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР даводзілася збірацца двойчы, каб выпрацаваць праграму ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі.

На папярэдняй сесіі дэпутаты адхілілі праект, прапанаваны ўрадам, таму што ён прадугледжваў накінуць на забруджанай тэрыторыі многія вёскі і пасёлкі. Цяпер праграма стала больш канкрэтнай і дзелавой. На яе выкананне за два гады будзе выдаткавана амаль што 17 мільярдаў рублёў з саюзнага бюджэту. Трэба пабудаваць новыя пасёлкі, дзе будуць жыць каля 100 тысяч чалавек, адселеных з небяспечнай зоны, выплаціць мільёны рублёў кампенсацыі, наладзіць гаспадарку ў дзесятках калгасаў і саўгасаў, якія там будуць створаны.

Але Беларусі самой не па сіле выканаць усё, намечанае ў праграме. Таму сесія Вярхоўнага Савета БССР перадала яе на зацвярджэнне ў Вярхоўны Савет СССР.

Пасля гарачых спрэчак, грунтоўна аргументаваных і часам толькі эмацыянальных выступленняў сесія прыняла важныя папраўкі да закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР і папраўкі да Канстытуцыі рэспублікі.

ВІЗІТЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ КНДР У МІНСКУ

У сувязі з 23-м пасяджэннем Міжурадавай камісіі па эканамічных і навукова-тэхнічных пытаннях паміж СССР і КНДР, якая праходзіла ў Маскве, у Мінску пабывала дэлегацыя адказных работнікаў міністэрстваў і ведамстваў Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі на чале з намеснікам прэм'ера Адміністрацыйнага савета КНДР Кім Бок Сін.

Госці былі прыняты Старшынёй Савета Міністраў БССР М. Кавалёвым. У час гутаркі яны азнаёміліся з праблемамі, што стаяць перад працоўнымі рэспублікі ў сувязі з пераходам на новыя формы гаспадарання, развіццём сацыяльнай сферы.

У гутарцы прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР А. Трутнеў і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол СССР у КНДР Г. Барташэвіч.

Дэлегацыя наведала Мінскае вытворчае швейнае аб'яднанне імя Крупскай.

ПРЫЖЫЎСЯ ЖЭНЬШЭНЬ



Багаты ўраджай насення абяцае ў гэтым годзе першая ў рэспубліцы прамысловая плантацыя па вырошчванню жэньшэня, створаная пры Мінскай гароднінная фабрыцы. Гэта будзе садзейнічаць больш шырокаму распаўсюджанню далёкаўсходняга кораня жыцця на беларускай зямлі.

НА ЗДЫМКУ: жэньшэнявод Ганна МАТЧЭНЯ збірае насенне.

ДНІ НІЖНЯЙ САКСОНІІ



Новым сведчаннем мацнеючага паміж СССР і ФРГ супрацоўніцтва сталі Дні Ніжняй Саксоніі, якія праходзяць у Беларусі. У Мінск прыбыла вялікая група дзеячаў культуры, навукі, тэхнікі з Заходняй Германіі. Яны знаёмяцца з жыццём беларускай сталіцы, выступаюць з лекцыямі ў навуковых установах горада, удзельнічаюць у вечарах дружбы.

Мінчанам і гасцям сталіцы прадастаўлена магчымасць пазнаёміцца з работамі графікаў ФРГ на выстаўцы «Тры пакаленні ніжнесаксонскіх мастакоў» у Палацы мастацтва, пабываць на прадстаўленні нямецкага тэатра пантамімы, паслухаць выступленні аркестра школы імя Гётэ з Гановера.

НА ЗДЫМКУ: госці з ФРГ у Мастацкім музеі БССР.

БІЗНЕСМЕНЫ З ЗША

## НАРОД ДА НАРОДА

Намеснік дырэктара савецкіх праграм амерыканскай няўрадавай арганізацыі «Народ да народа» Кэвін Корбіт сустрэўся ў Мінску з намеснікам старшыні Дзяржплана БССР Г. Бадзеем і некаторымі іншымі адказнымі супрацоўнікамі планавага камітэта. Тэмай іх гутаркі было пашырэнне супрацоўніцтва паміж амерыканскімі фірмамі і беларускімі прадпрыемствамі.

Амерыканская арганізацыя «Народ да народа», нягледзячы на няўрадавы статус, карыстаецца рэальнай падтрымкай адміністрацыі. Так, прэзідэнт ЗША Дж. Буш з'яўляецца яе ганаровым прэзідэнтам. Цяпер яна ўзяла на сябе арганізацыю паездак у Савецкі Саюз амерыканскіх бізнесменаў, палітычных і грамадскіх дзеячаў, праграма знаходжання якіх у нашай краіне ўключае сустрэчы з шырокімі слаямі насельніцтва, у тым ліку прадстаўнікамі савецкіх дзелавых колаў. Нягледзячы на немалы кошт такіх паездак, яны карыстаюцца вялікай папулярнасцю, таму што, апрача «чыстага» турызму прадастаўляецца рэальная магчымасць заключыць выгадныя пагадненне ў краіне, якая мае вялікія патэнцыяльныя магчымасці.

Беларусь — адна з найбольш наведваемых амерыканскімі бізнесменамі рэспублік. Напрыклад, нядаўна тут пабывала прадстаўнічая дэлегацыя аэракасмічнага комплексу ЗША. Першыя пункты сутыкнення ўжо знойдзены. Цяпер разглядаюцца варыянты пагадненняў, якія дазволілі б наладзіць перапрацоўку беларускай бульбы па амерыканскай тэхналогіі ў муку ці бульбу-фры. Маючы адбыцца пераход БССР на рэгіянальны гасразлік, як адзначалася ў ходзе гутаркі ў Дзяржплане, адкрывае новыя перспектывы для ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

ПРЭМ'ЕРЫ

## КОЛАСАЎЦЫ ЗАПРАШАЮЦЬ

Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа сёлета рыхтуе багата прэм'ер. Адноўленага «Несцерку», які «вытрымлівае» ўжо трэцюю рэдакцыю, пакажа гледачам маладзёжная частка трупы. А. Дольнікаў скончыў працу над «Маскоўскім хорам» Л. Петрушэўскай, у яго ных бліжэйшых планах — твор А. Платонава «Чатырнаццаць чырвоных хацінак». Б. Эрын працуе над першай у краіне пастаноўкаю «Хама» Э. Ажэшкі паводле сваёй інсцэніроўкі; А. Смелякоў паводле «Хронік» У. Шэкспіра падрыхтаваў спектакль «Генрых VI»; І. Баярыняцы распачаў работу над п'есай А. Паповай «Маленькія радасці жывых». У планах тэатра таксама пастаноўка «Тутэйшых» Янкі Купалы. Паэт С. Сокалаў-Воюш працуе над п'есай для самых маленькіх наведвальнікаў коласаўскага тэатра. Прэм'ера спектакля паводле гэтай п'есы адбудзецца падчас зімовых школьных канікулаў.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГРОДНА. Польская мова загучала на занятках у сярэдняй школе прыгранічнага пасёлка Сапоцкін паблізу абласнога цэнтра. Вучні пачатковых класаў пачалі вывучаць польскую мову і літаратуру на ўроках, старэйшыя школьнікі — у гуртках і на факультатывах. Неабходныя падручнікі прадаставілі педагогам іх польскія і літоўскія калегі.

Вялікая група педагогаў, якія выкладаюць новыя дысцыпліны, гэтым летам пабывала на стажыроўцы ў ПНР.

БАБРУЙСК. З новага года з канвеера фабрыкі № 2 аб'яднання «Бабруйскдрэў» пачне паступаць у продаж новы кухонны гарнітур. Набор для кухні назвалі «Бабруйчанкай». Навасёлы ацэняць яго высокія вартасці. У набор уваходзяць мяккі куток, у бакавінах якога ёсць ёмістасць для сыпучых прадуктаў, мыйка з нержавеючай сталі, арыгінальныя табурэты, зашклёныя навясныя шафы і г. д.

БРЭСТ. Па запрашэнню абласной доследнай станцыі тут пабывала група польскіх вучоных-аграрнікаў. На аб'яднаным вучоным савеце яны абмяняліся вопытам работы па інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, укараненню ў практыку дасягненняў навукі.

Польскія вучоныя пабывалі ў шэрагу гаспадарак Брэсцкага, Камянецкага і Пружанскага раёнаў, дзе азнаёміліся з развіццём эканомікі, сацыяльна-культурнымі пераўтварэннямі на сяле.

Дасягнута пагадненне аб перспектывах абмену вопытам работы беларускіх і польскіх вучоных. Словам, карысць будзе ўзаемная.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# БАСТУЕМ?

Тэма стачак, забастовак на вытворчасці, на здзіўленне ўсіх савецкіх людзей, стала не толькі актуальнай, але апошнім часам проста балючай. Ці ёсць такія здарэнні на Беларусі? Адказвае старшыня Белсаўпрофа Уладзімір ГАНЧАРЫК:

— Ёсць. Але, безумоўна, не ў тых маштабах, як, скажам, у шахцёраў Данбаса ці ў Малдавіі, Прыбалтыцы. У Беларусі мы можам гаварыць пра пэўныя інцыдэнты такога характару на ўзроўні цэхаў, вытворчых участкаў. Апошнія такія падзеі адбыліся ў Нароўлі. Тут вылучаліся патрабаванні, звязаныя з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай аварыі. Ну а болей, я б сказаў, нічога такога значнага і няма.

**— КАЛІ МОЖНА, ПАДРАБЯЗНЕЙ УСЁ Ж ТАКІ ПРА ТЫЯ ПАТРАБАВАННІ, ШТО ВЫСТАЎЛЯЮЦЬ ЗАБАСТОЎШЧЫКІ...**

— Зараз складваецца тэндэнцыя фарміравання патрабаванняў, якія выходзяць за рамкі кампетэнцыі калектываў. І тут трэба не даць перарасці вытворча-працоўным канфліктам у забастоўкі, вырашыць праблемы, калі яны абгрунтаваныя і ёсць магчымасць задаволіць патрабаванні. Дарэчы, у многіх выпадках усё можна зрабіць на месцы. Бывае і так, што працоўныя калектывы сядзяць і чакаюць, калі прыедзе нехта з цэнтра і ўсё наладзіць, а самі не варушацца. Напрыклад, можа быць выстаўлена патрабаванне: змяніць галоўнага эканаміста ці начальніка цэха. Ну, вазьміце і змяніце! Чаго ж вы глядзіце толькі наверх?

Але іншы раз патрэбна і дапамога цэнтра. Менавіта так адбылося ў шахцёраў-калійшчыкаў Салігорска, у Жлобіне. А ў гэтыя дні вырашаюцца справы з транспартнікамі Мінска, Карацей, прыкладаюцца ўсе намаганні, каб пагроза забастоўкі не перарасла ў рэальную забастоўку.

**— А ЯКУЮ РОЛЮ АДЫГРЫВАЮЦЬ ПРАФСАЮЗНЫЯ КАМІТЭТЫ У ТАКІХ СКЛАДАНЫХ СІТУАЦЫЯХ!**

— У некаторых месцах рабочыя звяртаюцца да іх за дапамогай. У іншых ствараюць самастойныя стачачныя камітэты, у якія, бывае, уваходзяць і прафсаюзныя, і партыйныя актывісты. А ўвогуле прафсаюзы зараз прачынаюцца ад дрымоты. Мы прапануем рабочым выбіраць сваіх нефармальных лідэраў у кіраўніцтва прафсаюзных камітэтаў. Патрабуем, каб прафкомы не проста прымалі рэзалюцыі тыпу: узмацніць, палепшыць і да т. п., а цэлы пакет канкрэтных патрабаванняў, а потым ужо глядзелі, дзе палепшыць, а дзе ўзмацніць. Прафсаюзы павінны нарэшце стаць сапраўднымі абаронцамі працоўных. Вось адна з нядаўніх гісторый. Вадзіцелі аўтатранспарту перайшлі на арэндны падрад. Заключылі новыя дагаворы з адміністрацыяй. Але недзе не дагледзелі, і ў дагаворы замацавана палажэнне, паводле якога яны павінны працаваць даўжэй і без дадатковай аплаты. А зараз разгледзелі гэтую памылку. І цяпер патрабуюць выправіць становішча, выплаціць заробленыя такім чынам грошы. І мы падтрымалі іх. Яны маюць рацыю.

**— ЯК ЖА СТАВІЦЦА ПРАФСОЮЗЫ ДА ЗАБАСТОВАК!**

— Мы патрабуем, каб прафсаюзы атрымалі права на забастоўкі па закону. Зараз такога палажэння няма, але яго неабходна прыняць. Усё павінна будавацца толькі на прававой аснове. Павінен існаваць пэўны тэрмін для папярэдняга разгляду канфліктаў ка камісіях, у арбітражы. І толькі ў самым крайнім выпадку, калі ўсе сродкі вычарпаны, пачынаць забастоўку. Дарэчы, Беларусь далучылася да рашэння Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) аб праве на забастоўку. У агульнасаюзных дакументах забастоўкі і не дазволены, і не забаронены.

**— АЛЕ АПОШНІМ ЧАСАМ З'ЯВІЎСЯ РЭГЛАМЕНТУЮЧЫ ДАКУМЕНТ...**

— Так, выйшла пастанова Вярхоўнага Савета СССР, якая забараняе на 15 месяцаў усялякія забастоўкі ў жыццёва важных галінах народнай гаспадаркі, напрыклад, на транспарце. Але гэта зноў-такі пакуль. Часовы дакумент. Сапраўднае вырашэнне праблемы яшчэ наперадзе: у стадыі разгляду Вярхоўным Саветам СССР цяпер знаходзяцца два важнейшыя для ўсіх нас законы аб правах прафесійных саюзаў і аб забастоўках.

МАЛАБЕРАСТАВІЦКІ МУЗЕЙ ХЛЕБА

# «ТЫ ШАПКУ ПЕРАД ІМ ЗДЫМАЙ»

Спрадвеку сярод людзей бытуе прымаўка: «Хлеб — усяму галава». Уменне пячы смачны хлеб з даўніх часоў лічылася мерай працавітасці і майстэрства чалавека. І да сённяшніх дзён у некаторых аддаленых вёсках Гродзеншчыны гаспадыні могуць пахваліцца такім умельствам. Таму і народныя святы ў гэтых месцах не праходзяць без спаборніцтваў гаспадынь у выпечцы хлеба, як на шырока вядомых конкурсах хлебапёкаў у скандынаўскіх краінах. Мне самому даводзілася назіраць за гэтым цікавым спаборніцтвам, пабываўшы нядаўна ў пасёлку Малая Бераставіца, што амаль на мяжы з Польшчай. Я пераканаўся: яшчэ ў нас на Беларусі нямала майстроў, якія могуць пасапернічаць з паўночнымі суседзямі ў хлебапякарнай справе. Каб стаць гаспадыняй народнага свята, трэба спячы тры боханы. Першы — жытні чорны, як гавораць, на кожны дзень. Другі — пшанічны, белы, звычайна да чаю і для сямейных урачыстасцей. Трэці — святочны пірог, дзе гаспадыня паказвае ўсё сваё майстэрства і ў якім заўсёды ёсць сюрпрыз...

Пра ўсё гэта я прыгадаў у час наведання Малабераставіцкай сярэдняй школы, галоўнае ў якой — музей хлеба. Дырэктар школы Леанід Панасевіч у час нашай невялікай экскурсіі зазначыў:

— Гэты наш музей — галоўны памочнік не толькі на ўроках геаграфіі, прыродазнаўства, працы і прафарыентацыі, але і ў маральным, працоўным, эстэтычным выхаванні школьнікаў.

Экспанаты музея незвычайныя — ад першабытных прыстасаванняў, падобных на жорны, да залацістых зярнят апошняга рэкорднага ў мясцовай гаспадарцы ўраджаю элітнай пшаніцы. Заўважу, што гэтым жорнам цаны няма, таму што вучоныя вызначылі: узрост іх перавышае 500 гадоў! Ёсць тут старадаўняе сіта, якому прыкладна трыста гадоў... А побач — пажаўцелы ад часу плакат, на якім чорным шрыфтам выведзена: «Хлеб блакаднага Ленінграда: са шпалернага пылу — на 20 працэнтаў, з мукі кукурузнай — на 3 працэнты, кастры з мешкавіны — на 2 працэнты, астатняе — з травы, вотруб'я, харчовай цэлюлозы...» Вельмі дарэчы тут пранікнёныя радкі пра хлеб з верша Максіма Танка:

**Ты шапку перад ім**
**здымай,**
**Нібы перад святыняй,**
**І крой хлеб толькі**
**да сябе,**
**Каб ён нас не пакінуў.**

Побач з вершамі, паэмамі пра хлеб захоўваюцца дзіцячыя сачыненні. Назвы іх гавораць самі за сябе: «Хлеб у маім доме», «Шчодрасць хлебнага поля», «Што я ведаю пра хлеб», «Мая праца ў калгасе»...

— Не падумайце, што мы тое і робім, што водзім дзяцей па музею, — гаварыла Галіна Красоўская, настаўніца біялогіі. — Музей — гэта толькі частка праграмы выхавання, навучання дзяцей. Цераз адносіны да хлеба выхоўваецца і экалагічная культура падрастаючага пакалення. Нашы вучні ведаюць не толькі жыццё поля, луга, але і ўмеюць, не наносячы шкоды прыродзе, карыстацца яе дарамі. Дзеці нарыхтоўваюць для аптэк лекавыя расліны, з захапленнем займаюцца селекцыяй: высаджваюць у цяпліцах гібрыдныя сарты, праводзяць вопыты і г. д. Гэтую работу нельга назваць толькі дзіцячай забавай, бо ад яе іншы раз залежаць поспехі ўсёй гаспадаркі. Хлебаробскую навуку па адных толькі падручніках ніяк не адолець, патрэбен вопыт, уменне працаваць на зямлі. Таму мясцовых дзяцей кожнае лета можна ўбачыць на таку, у полі, каля машын. Яны і салому скірдуюць, і збожжа адвозяць, і працуюць памочнікамі камбайнераў. Работа ў полі не толькі загартоўвае іх фізічна, але і прымушае задумацца пра цану працы. А музей хлеба — неразрыўнае звяно ў гэтым [illegible]ту фарміравання чалавека.

С. АНУПРЫЕНКА.



**Бераг возера Усвея, што на Віцебшчыне, здалёку нагадвае паромны прычал, хаця асаблівага ажыўлення на ім не назіраецца. Час ад часу ад экскаватара, які стаіць на пантоне ў цэнтры вадаёма, да яго падыходзіць баржа, якую штурхае невялікі катэр, і тады ўключаецца помпа. Яна перапампоўвае з баржы ў аўтацыстэрны чорную вадкую масу — сапрапелі. Машыны адна за адной ад'язджаюць ад прычала да пляцоўкі на поле, дзе выгружаюць будучыя ўгнаенні для прасушкі.**

**Так схематычна выглядае працэс здабычы сапрапеляў ва Ушацкім раёне. Дарэчы, называецца ён грэйферным — ад каўша, якім экскаватар падымае глей з дна на паверхню. Гэты спосаб больш выгадны за гідрамеханізаваны, які дасюль прымяняецца ў нас. За мяжой донныя адкладанні азёр здабываюць, у асноўным, экскаватарамі. Гідрамеханізаваны спосаб, на якім доўгі час настойвалі, лічачы яго адзіным, навукова-даследчыя і праектныя арганізацыі рэспублікі, заключаўся ў тым, што сапрапелі спачатку разрэджваюць прыкладна да двухпрацэнтнага ўтрымання сухога рэчыва ў вадзе, потым падаюць па трубах у адстойнікі, дзе на працягу года пры дапамозе фільтрацыі і выпарэння абязводжваюць. Тэхналогія аказалася малапрадукцыйнай і дарагой. Таму вырашылі шукаць новую, больш эфектыўную.**

**Працэсы заглейвання вадаёмаў у Беларусі, як вядома, прагрэсіруюць. Ужо сёння пятая частка азёраў зацягнута глеем, на некаторых пачалося торфаўтварэнне. У выніку яны страчваюць сваё значэнне як крыніцы вады, рыбагаспадарчыя ўгоддзі, месцы адпачынку. Таму ачыстка іх мае важнае прыродаахоўнае значэнне. Эфектыўнасць жа выкарыстання сапрапеляў на ўгнаенне даказана даўно — яны ў паўтара-два разы перавышаюць торф.**

**НА ЗДЫМКУ: здабыча сапрапеляў на возеры Усвея ва Ушацкім раёне.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

*ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА АДНОЙ СЯМ'І*

# БАЦЬКАВЫ ТРАДЫЦЫІ

Многім вядома, як няпроста з годнасцю пранесці праз жыццё добрае імя, не ўпасці, не спатыкнуцца пад цяжарам абставін. Але пра Іосіфа Голубева можна сказаць: ён усе выпрабаванні вытрымаў.

Рэвалюцыянер-бальшавік, арганізатар чырвонагвардзейскіх атрадаў у Мінску, адзін з першых рабочых-герояў рэспублікі (у 1933 годзе ЦВК БССР прысвоіў яму ганаровае званне Героя Працы), вядомы рацыяналізатар, ён пакінуў добрую спадчыну па сабе. А следам за бацькам ідзе сын. Голубеў-малодшы не рыхтаваў рэвалюцыю, не ўдзельнічаў у бітвах, не працаваў у часы першых пяцігодак па 12—14 гадзін у суткі: Уладзімір Іосіфавіч нарадзіўся незадоўга да вайны. І ўсё ж сваімі ідэямі, справамі і ён вядомы многім.

Аднак усё па парадку. Перанясёмся ў 1917-ты. Бальшавіком рабочы Іосіф Голубеў становіцца, як гэта запісана ў яго дзённіках-успамінах, па ідэйных перакананнях. Некаторыя знаёмыя і нават сябры адгаворвалі:

— Яззп, куды ж ты ідзеш, навошта звязваешся з гэтай галотай, адумайся, загінеш без пары.

Паводле жыццёвых мерак тых часоў, падставы для ўгавораў былі: І. Голубеў перад рэвалюцыяй лічыўся, можна сказаць, рабочай арыстакратыяй. Быў выдатным сталяром, мадэльшчыкам, слесарам. Царскі рэжым імкнуўся такіх аўтарытэтных рабочых схіліць на свой бок, за кошт розных падачак зрабіць саюзнікамі. Іншы раз гэта і ўдавалася. Але не ў выпадку з Голубевым. У таго за плячамі былі і галодныя гады сіроцтва, і непасільная праца. Іосіф бачыў: на яго стале па нядзелях сапраўды часам з'яўляецца пірог, але ж браты па класу галадаюць, чэзнуць ад непрагляднай галечы. І таму ён не паслухаўся ўгавораў. Хадзіў на сходы, мітынгі, канферэнцыі розных партый — ад кадэтаў да бальшавікоў. І, нарэшце, зрабіў выбар на ўсё жыццё.

Голас і вопыт кваліфікаванага майстравога чалавека надзвычай хутка спатрэбіўся рэвалюцыі. Становішча ж у Мінску тады абвастралася.

Генерал Карнілаў вёў на Піцер свае войскі, каб усталяваць там ваенную дыктатуру. 28 жніўня 1917 года сходам ваеннай арганізацыі пры ЦК РСДРП (б) прымаецца рашэнне ўзброіць рабочых і пад кіраўніцтвам салдат-інструктараў арганізаваць рабочую гвардыю. У гэты ж дзень у Мінску па прапанове М. Фрунзе на сходзе партыйнай арганізацыі чыгуначнага вузла таксама было вырашана сфарміраваць Чырвоную гвардыю. Адразу ж стварaліся два атрады. Адзін з іх узначаліў Іосіф Голубеў. Яго атрад за Мінскам разбіраў рэйкі, спыняў і раззбройваў эшалоны карнілаўскіх войск. А потым наступілі дні Кастрычніка. Іосіф Пятровіч занатоўвае ў дзённіку: «Мы адразу ж устанавілі групавыя і адзіночныя пасты на важнейшых участках чыгуначнага вузла, узялі пад строгі нагляд дзеянні начальніка станцыі Мінск. Было наладжана дзяжурства на тэлеграфах і важнейшых мастах па ўсёй лініі ад Оршы да Баранавіч». Скупыя, лаканічныя радкі з дзённікаў, успамінаў Голубева-старэйшага. У іх больш увагі надаецца, як цяпер гавораць, грамадскай дзейнасці. І цяжка ўявіць Голубева як канкрэтнага чалавека, бацьку і сем'яніна. Які́м жа ён быў?

Сын прыходзіць на выручку і нагадвае: да апошніх гадоў і дзён (а пражыў Іосіф Пятровіч амаль 90 гадоў) ён дапамагаў дзецям шукаць пункт апоры, выхоўваў годнасць, сумленнасць, грамадзянскую прынцыповасць. Калі Уладзімір-студэнт бурчаў, што ў кнігах напісана адно, а ў жыцці хапае людзей, гатовых дзеля сытнага кавалка гандляваць прафесійным гонарам, бацька звычайна нічога не гаварыў. Але праз нейкі час быццам незнарок расказваў пра рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, пра тое, як у яго падпарадкаванні аказаліся склады з хлебам, крупамі, мясам. І на старасці гадоў ганарыўся Голубеў, што хаця ў той час ён галадаў, але не пакваліўся на багацце, не ўзяў і кавалачка народнага хлеба. Сумленне бальшавіка не дазваляла гэтага зрабіць, бо побач хадзіў у апорках, еў пустую поліўку працоўны люд. Так жыў і працаваў не адзін Голубеў. Такімі ж крыштальна чыстымі рыцарамі рэвалюцыі былі Дзяржынскі, нарком харчавання Цурупа, кіраўнікі беларускага ўрада Чарвякоў, Кнорын, з якімі Голубеў-бацька сустракаўся і якіх ведаў.

Як і ва ўсякага чалавека, у Голубева-малодшага былі складаныя моманты, павароты лёсу, часам беспрынцыпна паступалі ўчарашнія сябры. Сакрэтаў адзін ад аднаго ў доме Голубевых не трымалі. І бацька хутка даведваўся пра думкі, што тачылі сына, тым больш, што ў запале маладога максімалізму той рабіў хуткаспелыя вывады. Маўляў, многія людзі цяпер сталі чэрствымі, бессардэчнымі.

— Вось і я так, здаралася, думаў,— казаў бацька.— Але жыццё тасавала «карты» пасвойму, даказвала: не трэба сячы з-за пляча, ганіць людзей.

І зноў жа, быццам выпадкова, Іосіф Пятровіч расказваў пра сваё жыццё. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, ён апынуўся ў акупіраваным Мінску. Усе ў рабочым пасёлку ведалі яго як актыўнага бальшавіка. У горадзе гаспадарылі немцы, арыштоўвалі камуністаў і іх сем'і, гналі ў канцлагер, расстрэльвалі.

Але Голубева за ўвесь час акупацыі ніхто не выдаў, хаця з некаторымі суседзямі Іосіф Пятровіч, мякка кажучы, быў не ў надта добрых адносінах.

Магчыма, камусьці гэтыя довады здадуцца малапераканаўчымі. Аднак для сына яны з'яўляліся надзвычай аўтарытэтнымі, бо ішлі ад бацькі, які жыў увесь час сумленна. І калі Іосіфа Пятровіча не стала, як гэтыя сціплыя ўрокі спатрэбіліся сыну! Яшчэ ў канцы шасцідзесятых гадоў ён захапіўся вынаходніцтвам. Зайшоўшы на агеньчык да Голубева, я доўга разглядваў яго тоўстыя «гросбухі», нашпігаваныя рознымі навінкамі ад самарухаючага шпрыца да ратацыйнай плоскай машыны. Але галоўным стала машына-глобус Голубева. Канструктары многіх краін імкнуцца стварыць машыну (рухавік, помпу, кампрэсар), якая ў параўнанні з існуючымі поршневымі сістэмамі значна апярэджвала б апошнія па магутнасці.

Не так даўно з'явіліся звесткі пра механізм «ратаком», вынайдзены ў Англіі. Канструкцыя яго незвычайная тым, што блок з трох цыліндраў з поршнямі не з'яўляецца нерухомым, а круціцца ўнутры корпуса. Выйгрыш ад гэтай навінкі ў параўнанні з традыцыйным рухавіком узрастае напалавіну. Дык вось прапанова Голубева, паводле ацэнак спецыялістаў, «на галаву» перавышае «ратаком». У канструкцыйнай схеме ўражвае адсутнасць цыліндраў і поршняў у звычным для нас выглядзе. Корпус машыны сапраўды нагадвае глобус з двума абалонкамі. Паміж імі размешчаны рабочы орган.

Не будзем удавацца ў канструкцыю. З гэтым выдатна справіліся вучоныя і інжынеры, якія знаёміліся з вынаходствам Голубева на ВДНГ БССР і СССР, іншых выстаўках. Канчатковае іх меркаванне наступнае: машына-глобус Голубева павінна знайсці прымяненне ў многіх галінах народнай гаспадаркі. У выніку рухавік «Жыгулёў», зроблены па прынцыпу такога ўстройства, упісваецца ў аб'ём не надта вялікага гарбуза, а «БелАЗа» — у «глобус» дыяметрам менш чым метр. Да таго ж машына з'яўляецца асновай для стварэння многіх класаў гідрарухавікоў, розных помпаў, кампрэсараў і г. д. у маторабудаванні, робататэхніцы, авіяцыйнай прамысловасці. Вынаходства абяцае зрабіць сапраўды рэвалюцыйны пераварот у машынабудаванні.

— Дзякуючы ёй, мы быццам адразу пераходзім, карыстаючыся радыётэхнічнай тэрміналогіяй, ад лямпавых прыёмнікаў да транзістарных схем,— сцвярджаюць многія вучоныя.

Сёння прозвішча Голубева прысвоена яшчэ шасці яго распрацоўкам, як надзвычай важным і актуальным. Але Уладзімір Іосіфавіч паказаў мне тамы доўгай перапіскі з рознымі ведамствамі аб'ёмам у дзве доктарскія дысертацыі. Яшчэ ўчора ў яго рэвалюцыйныя тэхнічныя ідэі не верылі. Але ён працаваў. Настойліва і ўпарта. Месяцамі, гадамі. Не звяртаў увагі на матэрыяльныя цяжкасці і папрокі блізкіх. Голубеў — сын аднаго з першых рацыяналізатараў рэспублікі настойліва ішоў да мэты. І дабіўся прызнання.

Аляксандр ШАГУН.

# СУВЕРЕННАЯ БЕЛОРУССИЯ

## КАКОЙ ЕЁ ВИДИТ КУЗНЕЦ ИЗ МИНСКА

**— Новая национальная политика КПСС может служить хорошей основой для нормализации межнациональных отношений в Советском Союзе. От митинговых страстей, конфликтов и забастовок пора перейти к спокойному решению накопившихся в этой сфере проблем. Иначе под вопросом может оказаться сама судьба перестройки, а значит, и будущее наших народов, — заявил в интервью корреспонденту АПН член ЦК КПСС Евгений Шуляк, 50-летний кузнец-штамповщик Минского автомобильного завода.**

*— Не кажется ли вам, что предложить платформу по национальной политике КПСС должна была раньше? Сейчас будет крайне трудно остановить эскалацию межнациональной напряженности.*

— Для выработки новой политики всегда требуется время, тем более, когда речь идет о такой сложной сфере общественного развития. Поспешные и не очень продуманные решения, как показала практика первых лет перестройки, около 300 предприятий союзного подчинения, на которых трудится 58 процентов всех занятых в промышленности, а вклад этих заводов в республиканский бюджет составляет всего лишь 8,5 процента.

*— Но Белоруссия в отличие от Прибалтийских республик вроде бы не настаивает на передаче всех этих предприятий в исключительную собственность республики. Почему?*

— Около 50 предприятий, как сообщил на Пленуме ЦК КПСС председатель Госплана СССР Ю. Маслюков, передаются в ведение республики. Он также заверил, что эта работа будет продолжена. Но какая-то часть предприятий, входящих в общесоюзные системы, пока останется в ведении центра. Речь идет о базовых отраслях индустрии, предприятиях оборонной промышленности, железнодорожном, морском и авиационном транспорте, коммуникациях и энергетике. С аргументами председателя Госплана нельзя не согласиться, без этого действительно будет невозможно

принесли нам больше вреда, чем пользы, что, на мой взгляд, случилось, в частности, с законом о кооперации. Кроме того, я не уверен, что еще год назад партия была готова пойти на столь радикальное обновление советской федерации. Мы все недостаточно хорошо представляем себе глубину проблем и противоречий. Дело могло свестись лишь к мерам косметического характера и абстрактным призывам, а это только усугубило бы болезнь.

*— Вы считаете, что новая модель советской федерации отвечает устремлениям союзных республик, в частности Белоруссии, и способна обеспечить их суверенитет, политическую и экономическую самостоятельность?*

— У нас в Белоруссии никто, похоже, не стремится к выходу из СССР, к чему, как известно, призывают некоторые горячие головы в Прибалтийских республиках, наивно полагая, что таким образом можно решить все проблемы. Мы выступаем за суверенную Белоруссию в обновленной федерации советских народов. Горбачев прав: ведь мы еще не жили в настоящей, со всеми ее достоинствами федерации, давайте поживем... Предлагаемый КПСС путь преобразований, с моей точки зрения, позволяет республике обрести подлинный суверенитет и в то же время пользоваться благами, которые дает принадлежность к одному из самых мощных государств мира.

Главная проблема состоит в том, чтобы четко разграничить компетенцию и взаимные обязательства Союза и составляющих его республик. То есть часть полномочий, необходимых для обеспечения общегосударственных интересов, все члены федерации добровольно передают в ведение союзных органов власти. Это вопросы законодательного регулирования основ политического и экономического строя, обеспечения безопасности страны, проведения внешней политики и некоторые другие. Остальные права принадлежат союзной республике, в том числе право поддерживать самостоятельные отношения с иностранными государствами, что для Белоруссии, которая является членом ООН, представляется крайне важным.

Можно сказать, что первый крупный шаг на пути самостоятельности уже сделан: с начала будущего года Белоруссия, Литва, Латвия и Эстония переходят на республиканский хозрасчет и самофинансирование. Мы надеемся, что это благоприятно отразится на уровне нашей жизни, на нашей зарплате, социальной сфере. Ведь не секрет, что при сверхцентрализованной административно-командной системе средства от успешно работающих предприятий перекачивались отстающим, из одних регионов в другие. Это, во-первых, порождало иждивенческие настроения, а во-вторых, подрывало всякую заинтересованность хорошо трудиться. Но и в таких условиях национальный доход Белоруссии рос в 2—3 раза быстрее, чем в целом по СССР. Однако это никак не отражалось на уровне жизни в республике. У нас расположено обеспечить устойчивое и динамичное развитие всего народнохозяйственного комплекса страны. Не следует также забывать, что все это создавалось с участием многих других республик.

*— Похоже, Белоруссии будет гораздо легче нормализовать ситуацию в экономике, чем возродить национальную культуру, ведь сталинско-брежневская политика лжеинтернационализма привела к тому, что белорусский язык практически исчез из употребления, в городах республики не осталось, кажется, ни одной школы с обучением на национальном языке.*

— Действительно, белорусские школы были только в сельской местности. В последнее время они вновь открываются и в городах. Мне кажется, что местные власти готовы перевести на белорусский язык обучения сколько угодно школ. Проблема состоит в том, что пока очень немногие родители соглашаются отдавать своих детей в белорусские школы. По-видимому, они опасаются, что в будущем у них могут возникнуть из-за этого трудности. Люди еще не верят, что в перспективе белорусизация затронет не только среднюю, но и высшую школу, и все другие сферы, включая деловую жизнь. Мы идем к этому, в Верховном Совете БССР сейчас готовится проект закона о придании национальному языку статуса государственного, как это сделано уже во многих союзных республиках.

КПСС, кстати, поддерживает такую практику. Но в партийной платформе заявлено также, что «интересам всех советских народов отвечало бы законодательное закрепление русского языка в качестве общегосударственного, используемого на территории всей страны и функционирующего на равноправной основе с государственными языками республик».

*— Это положение как раз вызывает несогласие значительной части белорусской интеллигенции и национально настроенных самодеятельных движений. Они опасаются, что это может свести на нет усилия по возрождению белорусского языка. В самом деле, если для нормальной жизни в республике мне хватает и русского языка, то зачем я буду утруждать себя изучением еще одного — национального? Что вы думаете по этому поводу?*

— Считаю, что человек, который переехал жить в национальную республику, должен овладеть языком коренного населения. Это его моральная обязанность. Но нельзя допустить, чтобы незнание языка ставило человека в неравноправное положение. А ведь именно на такой путь встали в некоторых республиках, где национальным меньшинствам были предъявлены языковые ультиматумы. В ряде мест это вызвало многодневные митинги, демонстрации и даже забастовки. Надо учитывать, что в СССР более 60 миллионов человек проживают вне границ своих национальных республик. И дискриминация этих сограждан недопустима.

Игорь ГЕРМЕНЧУК.

**КГБ ПРОТИВ ОРГАНИЗОВАННОЙ ПРЕСТУПНОСТИ**

# ЧРЕЗВЫЧАЙНЫЕ МЕРЫ

Самая таинственная и, как считают многие, самая могущественная в СССР организация — Комитет государственной безопасности (КГБ) — по решению правительства должна принять более активное участие в борьбе с организованной преступностью, так как число особо тяжелых преступлений растет с каждым месяцем и вызывает тревогу в обществе. Правда, и раньше КГБ принимал непосредственное участие в раскрытии преступлений, в результате которых государству причинялся крупный экономический и политический ущерб. По уголовному кодексу РСФСР 18 составов преступлений относятся прямо к компетенции КГБ и еще по 15 органы государственной безопасности могут вести расследование совместно с прокуратурой и Министерством внутренних дел (МВД). Согласно законодательным актам, принятым еще в конце 50-х-начале 60-х годов, на КГБ было возложено ведение дел, связанных с расследованием таких преступлений, как, например, шпионаж, диверсия, террористический акт, нарушение правил валютных операций, контрабанда и т. д. В отдельных случаях, по поручению прокуратуры, КГБ принимал участие в раскрытии уголовных преступлений. Так, в начале восьмидесятых прогремело дело «Океан» — группа преступников, включая высокопоставленных чиновников из Министерства рыбного хозяйства СССР, контрабандно переправляла крупные партии икры на Запад. За «Океаном» последовали «хлопковые» дела в Узбекистане и Таджикистане, где КГБ удалось раскрыть (потом уже подключались следователи прокуратуры) организованную мафию, привлечь к ответственности некоторых представителей верхнего эшелона власти этих республик, замешанных в коррупции.

Обладая квалифицированными сотрудниками и хорошей технической базой, КГБ, конечно же, может оказать более значительную помощь прокуратуре и МВД в борьбе с преступностью. Однако председатель КГБ Владимир Крючков считает, что даже подчиненная ему организация не в состоянии решить подобные проблемы, рассчитывая только лишь на свои силы: нужна помощь всех граждан страны.

КГБ уже взял на себя раскрытие таких особо опасных правонарушений, как рэкет, мафия, бандитизм. Сфера борьбы КГБ с преступностью теперь значительно расширена. Сотрудники комитета занимаются расследованием не только государственных преступлений, но и ведут дела, характеризующиеся особой дерзостью преступников. Так, следственный отдел КГБ в настоящее время занимается группой наемных убийц, которая за большую сумму «приняла заказ» на убийство двух человек.

Нельзя не сказать и о таком еще моменте. Начальник управления КГБ СССР по Москве и Московской области В. Прилуков отметил, что преступники все увереннее выходят и на международную арену. Легализация незаконных доходов через кооперативы и в дальнейшем открытие счетов в зарубежных банках могут привести к сращиванию местной мафии с международной. По словам Прилукова, есть данные и о прямой вербовке бывших советских граждан, которые, покинув страну, в подозрительно короткий срок стали за границей крупными бизнесменами, а теперь возвращаются к нам для заключения всевозможных сделок. В связи с интернационализацией преступности возникает и такой сенсационный вопрос, как взаимодействие КГБ с западными спецслужбами.

Расширение борьбы с преступностью не означает возвращения к временам массового террора. «Масштабы сегодняшней преступности заставляют нас принимать чрезвычайные меры,— сказал Крючков,— хотя бы потому, что этого требует народ».

**Виктор БАШКИН.**
(АПН).

# *ФАКТЫ И ЦИФРЫ*

## АССОЦИАЦИЯ СОВМЕСТНЫХ ПРЕДПРИЯТИЙ

Эта общественная организация создана в сентябре 1988 года, когда в Советском Союзе было зарегистрировано всего 94 совместных с иностранным капиталом предприятия. Сейчас в нее входят свыше 200, чьи интересы (в первую очередь) она представляет в государственных органах страны и за рубежом.

— За этот год сделано немало, — считает председатель правления Ассоциации совместных предприятий, международных объединений и организаций (АСП МОО) Лев Вайнберг. — Число совместных предприятий скоро превысит тысячу. Однако поддержки Ассоциации заслуживают прежде всего те, чей потенциал содействует решению насущных проблем советского народного хозяйства и более тесной интеграции с мировой экономикой.

Совместные предприятия производят дефицитные пока в стране товары и услуги, приобщают советских хозяйственников к передовым технологиям и коммерческому опыту. В числе наиболее активных — советско-западногерманские «Ленвест» и «Хоматек», советско-итальянские «Совпластитал» и «МИРБИС», советско-болгарские «Вариант» и «Лингвотехника», советско-финское «ЕКЕ-Садолин», «Интерквадро» (с участием фирм Франции и Италии).

## ВНЕШНЯЯ ЗАДОЛЖЕННОСТЬ СССР

На начало 1989 года ее общая сумма составила 33,6 миллиарда рублей, в том числе:

— в свободно конвертируемой валюте — 28,1 миллиарда рублей;

— в замкнутых валютах (клиринги) — 1,9 миллиарда рублей (включая Финляндии — 0,6, Югославии — 1,0);

— в переводных рублях — 3,6 миллиарда, из них: Болгарии — 0,5, Венгрии и ГДР — по 0,4, Польше — 0,2, Румынии — 0,6 и Чехословакии — 1,5 миллиарда.

## ВОЕННЫЕ ЗАВОДЫ — МИРНЫЕ ТОВАРЫ

В 1988 году предприятия Министерства обороны СССР изготовили товаров народного потребления на сумму 80 миллионов рублей. Их номенклатура составила около тысячи наименований. Это — радио- и электротовары, сборные садовые домики, скобяные изделия, детские игрушки, сантехническое оборудование, спортивные товары и т. д. Определена и «специализация» на предприятиях тех или иных округов с учетом местных потребностей. В Прибалтике, например, налажено изготовление всевозможной посуды, Запорожье поставляет в торговую сеть прицепы для легковых автомобилей, в подмосковном Калининграде население обеспечивается различными пиломатериалами, на Дальнем Востоке и в Забайкалье выпускают меховые изделия.

В нынешнем году товаров массового спроса на военных предприятиях будет изготовлено на сумму вдвое больше, в будущем она достигнет 300 миллионов рублей.

## ПРАБЛЕМЫ АЙЧЫННАГА КІНО

# ДЗЕ Ж НОВЫЯ ШЭДЭЎРЫ?

І ГЛЕДАЧЫ, і спецыялісты не разумеюць: вось ужо некалькі гадоў, як савецкае кіно вызвалілася ад путаў разнастайных кантралюючых арганізацый, а шэдэўраў усё няма. Наадварот, атрымаўшы немагчымую раней свабоду, савецкае кіно, на думку многіх, сур'ёзна захварэла. Дыягназы ставяць розныя — ад нястрымнай камерцыялізацыі да ваяўнічай элітарнасці.

Я б залішне не драматызаваў сітуацыю і не ўпамінаў слова «крызіс». Але закрываць вочы на пэўны заняпад таксама нельга. Мяркуйце самі: пры ўсёй маёй шчырай сімпатыі да савецкага кінематографа не магу назваць ніводнага шэдэўра, які б выйшаў на экраны ў апошнія 2—3 гады. За выключэннем, бадай, «Камісара», але той зняты Аляксандрам Аскольдавым больш за 20 гадоў таму назад. Увогуле, ілюзію таго, што ўсё добра, стваралі нядаўна стужкі «палічныя» — тут і «Тэма» Глеба Панфілава, і «Кароткія сустрэчы» Кіры Муратавай... Але «паліца» апусцела, і пахваліцца цяпер няма чым. Ствараецца ўражанне, што энергія шэдэўраў пайшла на дробязі, зрабіўшы «шэры» паток фільмаў крыху больш яркім, менш, калі хочаце, шэрым.

І няпэўная гэтая яркасць узнікае дзякуючы тэмам, яшчэ ўчора забароненым. Экран, нібы самазвал, высыпаў на галаву беднага гледача кучу такіх «забароненых» герояў і сюжэтаў. Прастытуткі і наркаманы, дысідэнты і мафіёзі, зноў прастытуткі і яшчэ раз мафіёзі... Валасы дуба ўстаюць — ад нязвыкласці. «БОМЖ» — гісторыя валацугі, які прыязджае ў родны горад, каб пабачыцца з сынам. «Трагедыя ў стылі рок» — цудоўная назва. Вось усё, чым можа пахваліцца фільм, які расказвае пра тое, як нейкая мафія робіць наркаманам наіўнага юнака, каб потым выведаць, дзе яго бацька хавае грошы. «Дысідэнт» — жыццё дысідэнта дома і за мяжой. «Злодзеі ў законе» — ліха закручаны сюжэт аб інтрыгах айчыннай мафіі. «Інтэрдзяўчынка» — меладраматычная стужка аб прыгодах валютнай прастытуткі, якая выйшла замуж за шведа, але так і не здабыла шчасця... Знятыя ў розных стылістыках — ад правінцыйна вытанчанай («Дысідэнт») да пошла амерыканізаванай («Злодзеі ў законе») — гэтыя фільмы, як «корпус хуткага рэагавання», ажыццяўляюць экспансію на раней невядомыя савецкаму кінематографу тэрыторыі.

А пачалося ўсё, як мне здаецца, з сур'ёзнай работы — з «Маленькай Веры» маладога Васілія Пічула. Фільм, які ўражвае сваёй дакладнасцю, які ўпершыню высвеціў на савецкім экране вобраз звычайнай маладой дзяўчыны «без котурн», вось-вось нарадзіць хвалю эпігонскіх паўтарэнняў. Пакуль, праўда, у шэраг падобных стужак становяцца карціны ў нечым блізкія, але — не падобныя. Такія, як «Муж і дачка Тамары Аляксандраўны» Вольгі Наруцкай. Гэтая стужка — жорсткі дыягназ лятальнага зыходу сям'і — пярвічнай ячэйкі грамадства. Бацька не жыве з маці, дачка не ведае, па сутнасці, што такое Дом, і пераходзіць па пад'ездзе то да бацькі, то да маці. Тленнем вее ад кожнага кадра гэтай бязвыхаднай стужкі, якая сумяшчае ў сабе істэрычны напал артыкула ў жаночым часопісе з добрым валоданнем кінамовай. Незвычайнай з'явай стаў і «СЭР» Сяргея Бадрова; назва карціны — абрэвіятура фразы «Свабода — гэта рай», але такая абрэвіятура часцей за ўсё сустракаецца ў выглядзе татуіровак на руках людзей, якія адседзелі тэрмін у турмах... Герой стужкі, падлетак, уцякае з калоніі для малалетніх злачынцаў. Яго «падарожжа» — блуканне па кругах пекла, зла, здрады, крыўдаў, агрэсіі. Ё[illegible]укае бацьку, які адбывае [illegible]ін у турме... Сустрэча бацькі і сына — гэтая біблейская мізансцэна — ператвараецца ў карціне ў трагічную пародыю, што разыгрываецца ў [illegible]ённай абстаноўцы турэмнага [illegible]акоя для спатканняў.

Я назаву тут удалыя стужкі, але, паўтараю, як правіла, «сацыяльныя» фільмы адрозніваюцца спрошчанасцю.

Так, ёсць яшчэ адна тэматычная тэрыторыя, да асваення якой энергічна прыступіў савецкі кінематограф. Гутарка пра эротыку, пра дэпурытанізацыю айчыннага экрана. Дзяўчаты ва ўборах «ню» шумнай чародкай перабягаюць з фільма ў фільм, але, здаецца мне, саромеюцца свайго нязвыклага выгляду, а таму выглядаюць, я б сказаў, неарганічна. Паказальная ў гэтым сэнсе карціна «На дапамогу, браткі!» — даведнік па целах маладзенькіх савецкіх кінаактрыс. Сюжэт фільма, незразумела мармычучы нешта, адыходзіць убок, аддаючы экран весялосці ножак і бюстаў...

У чым прычына падобнага заняпаду? Пытанне, зразумелая справа, не пра эротыку толькі, а ўвогуле пра савецкае кіно.

Не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі, дазволю сабе даць такое тлумачэнне. Вялікую колькасць сённяшніх фільмаў варта ўспрымаць (што я і раблю) як канстатацыю, называнне таго сацыяльна-псіхалагічнага асартыменту, які яшчэ ўчора быў пад табу. Занадта доўга тут існавалі ў фальшывым, выдуманым свеце, створаным з паўілжывых выступленняў газет і маўчання. Тое, што цяпер адбываецца ў кіно, — толькі першы этап, падрыхтоўка глебы для будучых, яшчэ невядомых шэдэўраў. Мастацтва расце з мастацтва — аднавіўшы status quo, мы дазволім шэдэўрам быць, не скажаючы сябе дэфармаваным успрыняццем. Савецкае кіно цяпер спрабуе стварыць праўдзівы свет, і няхай гэта не заўсёды азорана талентам, але ўсё ж, усё ж...

Мае надзеі не беспадстаўныя. З поспехам прайшоў па экранах фільм маладога казахскага рэжысёра Рашыда Нугманаа «Іголка» — постмадэрнісцкая аповесць пра каханне, дзе, на шчасце, наркаманія не прадмет спекуляцыйнага аналізу, а дэталь сюжэта (чаму, дарэчы, наркотыкі не робяцца менш страшнымі). Там жа, у Казахстане, знята карціна Бахыта Калібаева і Аляксандра Баранава «Трое», дзе сюжэт аб сучасных бадзягах вырастае да глыбокіх разважанняў пра дабро і зло, пра ісціну і падман.

І вось яшчэ пацвярджэнне — многія рэжысёры, якія складаюць «залаты фонд» савецкага кіно, знаходзяцца ў паўзе. Напрыклад, нічога не здымаюць Аляксей Герман, Элем Клімаў — быццам чакаюць чагосьці. Мне здаецца, я ведаю, чаго яны чакаюць: калі стабілізуецца творчае разуменне, калі не будзе шчыліны паміж рэальнасцю і веданнем пра яе. Неверагоднай колькасцю інфармацыі ўзбагачаецца апошнім часам савецкае жыццё, трэба асэнсоўваць.

І я чакаю таксама разам з усімі, час ад часу лаючы тую ці іншую кінападробку. Я чакаю з'яўлення шэдэўраў.

**Аляксандр КІСЯЛЁЎ.**



**Толькі ў выкананні фальклорнага ансамбля Гуцкага сельскага Дома культуры Пастаўскага раёна можна пачуць такія народныя песні, як «Люлька», «Вярба», «Ці святло». У рэпертуары гэтага калектыву нямала адроджаных мелодый нашага краю. Вось ужо пяць гадоў, як самадзейныя артысты, аб'яднаўшыся ў ансамбль, радуюць землякоў і песнямі, што гучалі на Пастаўшчыне ў вельмі даўнія часы, і мелодыямі, любімымі сёння, і злабадзёнымі частушкамі, якія ствараюць удзельнікі ансамбля Васіліса Мятлова і Леаніда Казаравец.**

**НА ЗДЫМКУ: фальклорны ансамбль Гуцкага сельскага Дома культуры.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

**Алесь НАВАРЫЧ**

# ЯЗЬ

**(Заканчэнне. Пачатак у № 43).**

Баючыся рыбнадзору, гэтыя рыбаловы не разбіралі, дзе вялікая рыба, дзе, малая, колькі яе гіне на беразе, вытрасенай разам з водарасцямі. Язёвая чарада здорава ўрадзела. Узровень вады ў канаве пастаянна паніжаўся. Буйная расліннасць папаўзла па берагах. Праз які тыдзень летняй спёкі вады зрабілася так мала, што сюды смела пачалі хадзіць хто з кломляй, з таптухай, а дзеці прыходзілі з кашамі, каб чарапнуць дзе з-пад раскі галавастага язя. Людзі кінуліся на дармаўшчыну! Зручней лавіць было сакамі. Вада катастрафічна спадала, толькі месцамі трымалася, забалочвалася. Чорныя ракі павыпаўзалі са сваіх нораў у лужыны, шматлікія перламутравіцы бяззубкі згрушчваліся на берагах. Рыбакоў было столькі многа, яны так узбоўтвалі ваду, што пачалася сярод рыбы задуха. Спачатку паўсплывалі хапаць ратамі паветра слабаватыя да чыстай вады плоткі, потым паказалі свае чорныя раты акуні. Малькі белай кісяёю ўсцілалі паверхню вады, перакуліўшыся ўверх серабрыстымі брушкамі. Ад гарачыні памерлая рыба пачала псавацца. Наляцела варанне, буслы бегалі па берагах, напіхваліся рыбай — жывой і мёртвай. Пачалі смярдзець раздаўленыя па берагах перламутравіцы, забітыя жабы, начапляная [illegible] водарасці ікра. Адным [illegible]ьным днём рэчка ў трох-ч[illegible]ырох месцах перасохла, утварыўшы перашыйкі. Гэта быў канец. У лужынах заставаліся водныя жыхары, але яны былі асуджаны на немінучую гібель. З-за смуроду [illegible]дзі не хадзілі сюды па р[illegible] хоць у ямах яна, пэўна, была.

Тут прыйшлі дружна школьнікі на чале з настаўнікам, пачалі закідваць свае змайстраваныя з марлі або сеткі сакі, лавіць драбнату, пераносіць яе ў слоіках у блізкае вадасховішча.

Палілі дажджы, вады крыху прыбыло, яна ачысцілася, узровень яе неяк стабілізаваўся: ні большала, ні меншала. Калі-нікалі прыходзіў сюды які рыбалоў, размотваў вуды, пачынаў лавіць. Звычайна выцягваў тры-чатыры карасікі, змотваў вуды і пераходзіў да вадасховішча, дзе меўся паспытаць большага шчасця.

Шматлікая нераставая чарада была знішчана. А што сталася з вялізным язём, які быў варты ўсяго касяка рыбы? На дзіва, гэты язь ацалеў. Жывы, як і раней, магутны, вышукаў паратунку ў адной з глыбейшых ям каля самай плаціны. У гэтай яме разам з ім схаваліся пяць-шэсць буйных язёў з нераставай чарады, некалькі доўгіх плотак і тоўсты шчупак — экскаватаршчык, калі падпраўляў плаціну, выбраў перад ёю добрую такі яму. У гліняным дне ўтварыліся ўрэзаныя каўшом раўкі. Месцамі экскаватаршчык дабраўся да жвіру і разварушыў ваданосны пласт. Таму ў гэтых раўках на дне ямы вада была чыстая і халодная. Але самае галоўнае ў паратунку было тое, што ніякая прылада не магла выгнаць язёў з раўкоў, з-пад камлыг гліны, каторая вывальвалася ў свой час з каўша, а цяпер зрабілася выдатным сховішчам. Вялікі язь лажыўся бокам у каўшовы выграбень, і шнур невада правалакаўся над ім, чапляўся за камлыгі, і рыбакі тузалі незад, адчэпвалі, залазячы ў сцюдзёную ваду, шнур-грузілы і больш не спрабавалі закідваць у яму. Але сюды часцяком залазілі з таптухай, і прыходзілася вывёртвацца што было сілы. Аднаго разу, пасля дажджоў, завіталі на гэтую яму хлопцы, улезлі з брадніком. Яны старанна падбівалі ніжняе біла пад камлыгі, выганяючы адтуль рыбу, брохалі ў каўшовых выграбнях і раз за разам выцягвалі то язя, то пару серабрыстых плотак. Распаленыя ўдачай, яны грабанулі брадніком у найглыбейшым месцы, выгналі вялізнага язя на плыткую ваду. Адразу скемілі, што за штуку выгналі з ямы, таму завярнуліся і пачалі забіваць па мелкаводдзю ў закутак. Адзіны шлях аставаўся язю — у сетку. Рыба-волат марудна пасоўвалася назад, адступаючы перад брадніком. Калі назад нельга было пасоўвацца, каб не паказваць свой чорна-залацісты горб, язь ударыў у ногі аднаму з хлопцаў, праціснуўся між білам і нагамі і зноў заняў сваё месца ў яме. Перапужаны хлопчык выскачыў на бераг.

— Ты бачыў? — спытаўся ён у сябра. Сябар таксама асцярожліва вылазіў хутчэй на бераг. Закідваць па-новаму яны не асмеліліся, але пабеглі да дарослых. Праз пэўны час яны прывялі вопытнага дзядзьку, у якога і бралі браднік. Забягалі яму наперад, размахвалі перад ім рукамі, расказваючы пра страшную рыбіну, якую ледзь не злавілі.

— Па назе мне як вальне! Я ж не зваліўся, выстаяў!

— Ты драпака даў на бераг! Гэта я стаяў, нават браднік сам выцягнуў, там яшчэ ўюн быў!

— Што гэта, дзядзьку, сом, можа, з Прыпяці забіўся ў нашу канаву?

Дзядзька пастаяў перад ямай, пастаяў і сказаў:

— Пачакайце!

Праз якую гадзіну ён з'явіўся з двума перапоўненымі вёдрамі нейкай вадкасці.

— Як толькі пакажацца, адразу хапайце! — сказаў дзядзька, выліваючы гэтую вадкасць з рэзкім пахам у яму.

Пякучы струмень пачаў едка шчыпаць рыбе вочы, прыпякаць у жабрах. Праз пэўны час вада завіравала ад здурэлай рыбы. Вялізныя і маленькія плоткі і шчупакі, карасікі і проста п'яўкі, жукі-плывунцы, вадамеркі — усе шалёна круціліся, выскоквалі з вады, выпаўзалі на бераг. Вялізны язь ускаламучваў ваду, шукаючы паратунку на дне. Атручаная вада нясцерпна пякла ў жабрах, уваходзіла з кіслародам у кроў, труціла з сярэдзіны.

— Бяжы, Пецька, да той цыстэрны, што каля саду, напускай яшчэ вядзерца. Толькі каб ніхто не бачыў.

Калі Пецька вярнуўся з вядром, ад якога ён адварочваў нос і плакаў, бо шчыпала вочы, то яно ўжо не было патрэбным. Уся рыба плавала ўверх жыватамі нерухома. Толькі здаравенны шчупак, у дрыгаўках паварушваючыся, плаваў кругамі.

Хлопцы навызбірвалі паўмяха рыбы. Шчупака, калі той аслеплена тыцнуўся да берага, аглушылі пянёчкам па чорнай галаве, дачакаліся, пакуль ён перастане валтузіцца, вывалаклі ўдвух на бераг,

Прайшло шмат дзён. Сонечнай раніцай у нядзелю прыйшлося аднаму чалавеку ісці праз плаціну. Насустрач яму ехаў на веласіпедзе хлопец-экскаватаршчык, прыбраны ў святочнае адзенне.

Каб бяспечней размінуцца на вузкаватай плаціне, хлопец сышоў з веласіпеда, паздароўкаўся з сустрэтым чалавекам, але той не адказваўся, бо ўтаропіўся ў яму з вадой ля плаціны. Чалавек гэты крыху саступіў, каб даць праехаць на веласіпедзе, з дарожкі, і яму прыйшлося глянуць уніз, куды пакаціўся збіты нагой камяк гліны. І ён убачыў у чысцюткай, толькі крышку нібы затуманенай вадзе вялізарнага язя, які злёгку паварушваў жабрамі. Унізе пад рыбінай біў цурок глею — гэта іграла крынічка. Ад гэтай крынічкі і ацалеў язь ад атруты. З-за пляча на рыбіну глянуў хлопец-экскаватаршчык.

— Тут не глыбока! Толькі штаны скінуць! Галоўнае — ваду не ўскаламуціць! — дрыжачымі рукамі развязваў экскаватаршчык шнуркі на чаравіках.

Мінут пятнаццаць прайшло ў валтузні, кіданнях з аднаго канца ямы ў другі, расчараваных крыках, плёхкаце. Але калі ваду ў абмялелай яме добра перамяшалі з гразёю, калі язь наглытаўся гэтай гразі, ачмурэў ад задухі, стаміўся ад знясілення, толькі тады ўдалося хлопцу і гэтаму мужчыну заціснуць рыбіну пад камлыгу, усадзіць пальцы ў жабры і вывалакці на бераг, а потым і на самы верх плаціны. Перапэцканыя з ног да галавы, людзі цяжка дыхалі, але з радасцю глядзелі на сваю здабычу. Язь — апошні з вялікай язёвай чарады — устрапянуўся, ад рэзкіх выгінаў тулава ажно падскочыў у паветра, хацеў ратавацца, але яго зяпа бездапаможна заглытвала паветра, ружовыя пласцінкі жабраў зліпаліся, на іх пачало наліпаць смецце, пыл, пясок.

— Танцуй-танцуй! — узбуджана сказаў трактарыст. — Гэта ён з Прыпяці прыблукаўся вясною, я дык ведаю!

— Упершыню бачу такога! — прызнаўся чалавек, здымаючы з валасоў камякі глею.

— Колькі тут кілаграмаў? —пядзямі пачаў мераць шчаслівы экскаватаршчык тулава рыбіны, што ўпарта выгіналася ў сухаватым пяску. Язь блішчаў на сонцы, як нашмараваная мядніца. Ад усяго ратаваўся ён: ад нездкоў браканьераў, ад браднікоў і таптух тых, хто кінуўся быў на дармаўшчынку. Перажыў засуху і смурод, нарэшце, змог ацалець ад атруты, выжыў у спякотлівыя дні, калі яма абмялела наўнэт. Але ўсё гэта было пераадолена, здавалася, толькі для таго, каб быць злоўленым рукамі гэтых двух залётных людзей і здохнуць тут, на плаціне, на гарачым пяску.

— Цуд прыроды! Дзецям такога паказваць! — зноў сказаў чалавек.

— А вы хто будзеце? — спытаўся эскаватаршчык.

— Я? Ды настаўнік...

— Я дык не тутэйшы, з меліяратараў...

— Гэта, можа, з тых хлопцаў, што ні разу на занятні ў вячэрнюю не прыйшлі? Вам жа экзамен здаваць! Сачыненне...

— Чаму ні разу не былі? Мы прыходзілі...

— Вы прыходзілі на другія прадметы, а на літаратуру...

— Мы адзін раз прыходзілі, дык вас тады не было...

— Нічога, можа, як напішам, крыху паможам, крыху самі напішаце... Кнігі хоць чытаеце?—гаварыў настаўнік, разглядваючы сваю запэцканую кашулю. — Вот трэба было далей пакласці, а то запырскалі. Але ж і рыбінку ўлавілі. Цуд прыроды, цуд. Ну, дык ці чыталі што праграмнае?

— Так. Няма часу, не было, работа... — сумеўся хлопец, бо якраз жа яго выслалі сябры з'ездзіць у школу на кансультацыю, на якую ніхто не хацеў ісці.

— Дзень і ноч работа ў вас, ці што? Але я і ўпэцкаўся!

— Давайце ў вадасховішчы памыемся... — прапанаваў экскаватаршчык.

Настаўнік абшчапіў язя, які тут жа выкрутнуўся, на што настаўнік лупнуў кулаком рыбіне па лабаціне, і, абхапіўшы рыбіну, панёс яе да вадасховішча. Ззаду хлопец пазбіраў адзежу і, шырока расставіўшы рукі, нёс яе ўслед. Доўга мыліся ў чысценькай вадзе. Язь на беразе ў траве падскокнуў.

— То як рыбіну дзяліць будзем? — спытаўся настаўнік.

— Можа... яго... ну, выпусціць! — нерашуча сказаў хлопец, бо, зайшоўшы па калені ў ваду, выглядзеў мноства малявак, што пудліва кінуліся ад яго ўсунутых у ваду рук, і галава хлопца была занята экзаменам па літаратуры, хоць ніводнай кніжкі хлопец, як і таварышы, не прачытаў. «Трэба гэтаму настаўніку аддаць рыбіну, падлашчыць яго», — слізнула ў галаве ратавальная думка.

Настаўнік пырхнуў вадой, мыючы твар, і адгукнуўся, падрабляючыся пад экскаватаршчыка:

— Што ты кажаш! Ведаеш, колькі можна гарэлкі пад такую закуску выпіць? —Хлопец адчуў фальш у гэтых словах, зразумеў, што настаўнік намякае на цемрасць іхнюю, неадукаванасць, грубасць, заўсёдную п'янку. Нешта нядобрае варухнулася ўсярэдзіне. «Чаму ён так?» — падумалася. Зноў да рук падышлі малькі. «Можа, ён адчувае, што я перад экзаменам павінен быць [illegible]хманы? І словы, сказаныя [illegible]стаўнікам, і гэтыя давер[illegible]а падышоўшыя да рук малькі, і кляпат жаберных шчыткоў язя, што не мог суціхнуць у траве, узрушылі хлопца. Нічога не маючы ў галаве, ён падняўся і, ніб[illegible] зведзены, нібы хто яму [illegible]адваў, падняўся на адхон берага, падсунуў пад язя рукі; падхапіў яго, сышоў з адхону. Настаўнік заўзята паласкаў твар. Язь у руках кляпнуў шчытком. Апусціў рыбіну ў ваду. Язь не варушыўся, марудна выварочваўся на бок. Тады хлопец таўхануў рыбіну наперад. Язь ледзь варухнуўся. Хлопец пацягнуў за хваставы плаўнік рыбіну назад, а потым зноў таўхануў наперад... Настаўнік адняў рукі ад твару, нагнёны да вады, паглядзеў на хлопца.

— Што гэта ты... А што ж ты робіш! — ускінуўся ён ад вады як апечаны. Вымкнуў з вады з круглымі, незвычайна рашучымі вачамі, падымчаў да хлопца, расставіўшы рукі. Плёхнуўся ў ваду ўхапіць рыбіну, але язь нечакана моцна тузануўся, ажыўшы ад свежай вады, вывернуў хвастом фантан вады... і знік ў чырванаватай вадзе вадасховішча.

— Ідыёт! Даўбешка! Прыдурак! Што ты нарабіў, га? Што ты нарабіў, га? Я цябе пытаюся, — чапляўся рукамі настаўнік за рукі хлопца, як гэта звычайна робяць, каб распачаць бойку.

Але настаўнік тут жа авалодаў сабой.

— Дурань! Што ж ты нарабіў! Ну і дурань! — А хлопец сапраўды стаяў у вадзе па калена з блазенскай усмешкай на твары, быццам толькі зараз уцяміў, што ж ён такое вытварыў.

— Навошта ты, га? Навошта? Такая рыбіна! — астылы ад гневу настаўнік знясілена сеў на бераг, паляпваў рукой па галаве, прыгаворваючы:

— Такая рыбіна, такая рыбіна!

Два чалавекі доўга сядзелі на беразе шырокага вадасховішча. Адзін з іх камячыў грудачку зямлі ў руках.



# І РАДАСЦЬ, І БОЛЬ, І ТРЫВОГА



Ёсць у Аркадзя Куляшова верш, можна сказаць, хрэстаматыйны. «Сасна і бяроза» называецца. Гаворка ў ім ідзе аб вечнасці і несупыннасці жыцця, аб пастаяннай повязі ўсяго, што знаходзіцца на зямлі: «Трымаюць Зямл[illegible]з падзвіжнікаў тых, без мудрага троса, ж[illegible]мі рукамі карэнняў сваіх сасна і бяроза». Ды трывожна на сэрцы ў паэта, бо ведае: «паглядваюць коса аратыя смерці, каб больш не раслі сасна і бяроза». Заключныя радкі твора гучаць запытаннем, якое адначасова звер[illegible]та да кожнага: «А што, як Зямлю нашу [illegible]сцяць з рук сасна і бяроза?»

Нават у самым страшным сне Аркадзь Куляшоў і падумаць не мог, што радыяцыйны прысак закране і яго родныя мясціны. Ды, на жаль, так сталася. У Касцюковіцкім раёне асобныя вёскі заражаны радыенуклідамі. Ці не самы высокі ўзровень радыяцыі ў Саматэвічах, дзе семдзесят пяць гадоў назад паэт упершыню глянуў на свет. Пройдзе некаторы час, і людзі з Саматэвіч будуць адселены, а пакуль што вёска жыве, спадзяецца на лепшае. Па-ранейшаму жыхары яе дбайна захоўваюць памяць аб сваім знакамітым земляку.

Таму з такой радасцю сустракалі яны нядаўна пісьменнікаў як беларускіх, так і прадстаўнікоў іншых народаў, якія перад гэтым прымалі ўдзел у семінары перакладчыкаў беларускай літаратуры на мовы народаў СССР і выказалі жаданне прыняць удзел у Рэспубліканскім свяце паэзіі. Дарэчы кажучы, падобныя святы ў Беларусі сталі традыцыйнымі. Як звычайна, яны праводзяцца на радзіме вядомых паэтаў — Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Максіма Багдановіча...

...Невялічкая хатка ледзь не на самым беразе маленькай рачулкі. Мемарыяльная дошка на сцяне нагадвае: «Тут нарадзіўся і жыў народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў». Ля будыніны і сабраліся жыхары Саматэвіч на ўрачыстасць. У выкананні мясцовага фальклорнага калектыву прагучала адна з народных песень, якія так любіў паэт, і ўсе быццам адчулі тут і яго прысутнасць. Настаўнік Саматэвіцкай сярэдняй школы імя А. Куляшова, дырэктар яго музея Я. Шаройка нагадаў аб тым, як землякі захоўваюць памяць аб песняры. Мясцовы паэт М. Мельнікаў прачытаў свае вершы, у тым ліку і «Куляшоў мост». Мост гэты, якому вяскоўцы далі імя земляка, поруч, злучае два берагі рачулкі.

Унук А. Куляшова У. Бербераў перадаў музею двухтомнік паэта, які толькі што ў перакладзе на рускую мову выйшаў у Маскве, у выдавецтве «Художественная литература», а таксама кнігу сваёй маці В. Куляшовай «Лясному рэху праўду раскажу...» — яе выпусціла рэспубліканскае выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе дачка ўспамінае аб бацьку, дзеліцца ўражаннямі аб яго творчасці.

Госці пазнаёміліся з экспазіцыяй куляшоўскага музея, які ў будынку школы займае некалькі пакояў, пасадзілі алею маладзенькіх блакітных елачак. Пасля чаго дарога павяла ў калгас «Кранштат». Такая назва ў гаспадаркі невыпадковая, бярэ яна пачатак з аднайменнай камуны, што ўзнікла ў тутэйшых мясцінах яшчэ ў 1918 годзе. Даў жа ёй назву былы балтыйскі матрос, які, дэмабілізаваўшыся, усталёўваў тут новае жыццё.

Трывожна сёння і ў калгасе «Кранштат». Таксама праз некаторы час давядзецца перасяляцца. Не выпадкова, што і на ўрачыстым вечары, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння А. Куляшова, які адбыўся ў мясцовым Палацы культуры, не абміналася ўвагай і чарнобыльская тэма. Ды і як жа інакш. Як падкрэсліў вядучы вечара першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Н. Гілевіч, місія паэзіі, літаратуры на зямлі — далёка не пацешлівая. Галоўная іх задача — гаварыць пра лёс чалавека. Ён жа ніколі з адных святаў не складаецца. Нямала бывае і горкага, пра што павінна гаварыць літаратура.

Сам А. Куляшоў таксама ніколі ў сваёй творчасці не абыходзіў трагічных момантаў у мінулай гісторыі. Пра гэта і напаміналі тыя, хто выступаў на вечары — першы сакратар Касцюковіцкага райкома партыі У. Адашкевіч, народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль, паэты П. Макаль, У. Паўлаў, В. Аколава, Г. Пашкоў, Ю. Свірка, К. Камейша, Г. Дзмітрыеў, В. Зуёнак, а таксама А. Гардзіцкі, М. Кенька, сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР І. Аношкін.

Прыязна сустрэлі прысутныя паэтаў П. Прыходзьку і А. Пісьмянкова. Яны — землякі А. Куляшова. Праўда, П. Прыходзька нарадзіўся ў суседнім Хоцімскім раёне, але сябраваў з Аркадзем Аляксандравічам. А. Пісьмянкоў родам з Касцюкоўшчыны. Любоў да А. Куляшова, слыннай і песеннай зямлі гэтай і выказвалі яны ў сваіх прачулых вершах.

На вечары гучала не толькі беларускае слова. Выступалі С. Мурадзян (Арменія), А. Пухаеў (Паўднёвая Асеція), Н. Нарматаў (Узбекістан), П. Мытскюла (Эстонія), якія прачыталі творы А. Куляшова ў перакладзе на свае мовы.

У час урачыстасці адбылася яшчэ адна сустрэча. Уласна кажучы, з гэтай «сустрэчы» пачаўся вечар. Пагасла святло ў зале, і на экране прысутныя ўбачылі дарагія ім краявіды, пачулі песню «Алеся», у аснову якой пакладзены верш А. Куляшова «Бывай...» — туга па першым юнацкім каханні, пранесеным праз усё жыццё, а потым з'явіўся і сам Аркадзь Аляксандравіч. Гэта дэманстраваўся дакументальны фільм «Край крынічны», зняты на кінастудыі «Беларусьфільм» яшчэ ў 1972 годзе.

Вяртаючыся дахаты, пісьменнікі зазірнулі на Мсціслаўшчыну. Пастаялі ля будынка, дзе раней знаходзіўся педагагічны тэхнікум, у якім вучыўся А. Куляшоў, а потым пабывалі ў Малой Багацькаўцы — на радзіме класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага, дзе ствараецца яго музей.

Так прайшло гэтае Рэспубліканскае свята паэзіі, што паяднала ў сабе і радасць, і боль, і трывогу. Прайшло, яшчэ раз нагадаўшы, наколькі ў адказе сёння ўсе мы за жыццё на зямлі, як павінны дбаць, каб сапраўды сасна і бяроза не выпусцілі яе з рук.

**М. АНДРЭЙЧАНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: вечар вядзе Ніл ГІЛЕВІЧ; хлеб-соль прымае Янка БРЫЛЬ.**

**Фота У. КРУКА.**

Уладзімір ПАЎЛАЎ

# ХТО ПАВІНЕН ДЗЯКАВАЦЬ

— Малако ў каровы на языку, — гаворыць баба Мар'я, наліваючы ў кубкі сырадою. Ён з пенай. Такая пена называецца шумам. Калі не верыш, нагніся вухам над кубкам: пена ападае і шуміць. А ў вядры, адкуль баба цэдзіць малако ў гладышы, — суцэльны шум. Здаецца, што гэта пад ветрам шуміць трава, якую скубуць каровы.

Хлопчыкі стаяць каля стала. Позіркі іх скіраваны на тое, што робіць баба. Яна нахіляе пузаты гліняны гладыш. Налівае ў адзін кубак, у другі. Хутка, спрытна. І хоць бы адна кропля разлілася! Навучыцца б самім гэтак. А то іншы раз, калі талерка далекавата, такіх дарог наводзіш, быццам знарок хто наліў. Пакуль мама не загадае прысунуць талерку бліжэй. Нібы сам не мог дадумацца.

Баба Мар'я вядзе сваю справу ды не забывае і гаварыць. І пра карову, і пра малако на языку ў яе, і пра іншыя мудрасці. Цікава было назіраць і за тым, як яна даіла карову. Максімку не ў навіну, вядома, а Сярожа калі тое бачыў?!

— Карова што з'есць, тое і аддасць, — гаворыць баба. Яна ўжо ўкроіла па вялікай скібцы ад духмянага пірага, які спякла сама ў печы. Ідзе і прыносіць з шахаўкі міску з тварагом. Усё ставіць на стол. Запрашае ўнукаў: — Залазьце за стол. Напрацаваліся, трэба вячэраць.

Напрацаваліся — гэта праўда. Сёння дзядзька Іван і Сярожаў тата касілі. Трава была пасеяна на загоне за хатай. Густая, высокая. Бацькі, відаць, паўставалі рана, бо скошана было шмат, калі сыны прыбеглі клікаць іх снедаць. Касцы былі да пояса голыя. У іх руках косы аж спявалі: жых-жах, жыхжах! Трава, унізе мокрая ад расы, клалася ў роўныя пракосы. А касцы падмянташваць косы ды зноў: жыхжах, жых-жах! Люба-дорага глянуць.

Пасля снядання пайшлі на загон гуртам. Бацькі касілі, а Сярожава мама з цёткай Тамарай разбівалі пракосы. Каб хутчэй прасыхалі.

Сыны дапамагалі мацеркам. Бралі па бярэмю скошанай травы і растрэсвалі па пракосе. Распрануліся, асталіся ў адных трусіках. Змарыліся. Што казаць, работа нялёгкая.

У абед баба Мар'я прынесла усім біклажку з укіслым бярозавікам. Сярожаў тата і дзядзька Іван пілі, задраўшы галовы. Квас разліваўся і бег па голых грудзях. Пасля пілі хлопчыкі, настаўшы перад біклажкай на калені. У іх таксама разліваўся ўкіслы бярозавік. Прахалодным струменьчыкам ён казытаў грудзі. Было слякотна і разам з тым прыемна.

І вось цяпер яны вячэраюць.

Дапілі малако. Максімка зірк на Сярожу, а таго белыя вусы ад сырадою з шумам. Максімка зарагатаў, паказваючы на стрыечнага брата. У сваю чаргу Сярожа паглядзеў на Максімку. І ў таго былі такія ж вусы і Сярожа зарагатаў. І ад Максімкавых вусоў, і ад таго, як Максімка без дай прычыны зацекаецца. А таму, што кожны сваіх вусоў не бачыць, а з таварышавых смешна.

— Вы павячэралі, то за сталом смяяцца нельга, гэта вам не цырк, — кажа баба Мар'я. — Вылазьце.

— Дзякуй, — гаворыць бабе Мар'і Сярожа.

— Расці вялікі, — адказвае баба і пазірае на Максімку. — Ну, а ты чаму не дзякуеш? — пытаецца яна ў другога ўнука. — Так і будзеш расці, на лес глядзячы?

Максімка здзіўлены. Навошта дзякаваць? Яны ж з бабай у адной хаце жывуць. Гэта Сярожа няхай дзякуе, бо ён у госці прыехаў. А Максімка тут — свой.

Але баба Мар'я іншай думкі. Яна павучае хлопцаў:

— Дзякуй — тое слова, якое ўсе добрыя людзі кажуць. Вам дзякуй за дзённую працу, а мне за тое, што накарміла вас.

Уступае ў гаворку Сярожава маці:

— Вы, мама, размаўляйце з імі прасцей. Бо ці зразумеюць яны, як гэта расці на лес глядзячы.

— Чаму не зразумеюць — хлопцы вялікія. Каб людзьмі расці, а не быць таварышамі ваўкам у лесе, трэба паважаць чужую працу, чужую ласку.

— Дзякуй, баба Мар'я, — нарэшце гаворыць Максімка.

— На здароўе, унучак,— ласкава адказвае яна. — Ну, а цяпер — мыць ногі!

# крынічка

## ЗАПРАЖЫЦЕ СІВЫХ КОНЕЙ

*Народная песня ў апрацоўцы А. РАШЧЫНСКАГА*



Запражыце сівых коней
У вазок шырокі:
Хоча ехаць верабейка
У госці да сарокі.

Як прыехаў верабейка
Ды шпорамі ляснуў.
Выскачыла сарочанька:
— Прашу, калі ласка.

Прашу, прашу, верабейка,
Мяне не цурацца,—
І за стол саджае госця,
Просіць частавацца.

## ГРЫБ У СЛОІКУ

Сяджуаднойчы каля свайго дома. Адпачываю. І раптам чую на вуліцы дзіцячыя галасы. Зразумеў: спрачаюцца аб чымсьці хлапчукі.

І вось яны ўжо каля мяне. Вітаюцца са сваім настаўнікам і наперабой гавораць:

— Глядзіце, глядзіце, якая знаходка.

Узяў слоік з рук белагалавага Ванюшы і бачу: звычайны слоік ёмістасцю адзін літр, а ў сярэдзіне — грыб-баравік. І зноў з маіх рук пайшоў па руках дапытлівых хлапчукоў слоік з баравіком. На гэты раз яны больш уважліва разглядалі сваю знаходку, а зразумець, як баравік апынуўся там, так і не змаглі. А ён настолькі прыжыўся ў слоіку, што і выцягнуць яго было немагчыма. Тады адзін з найбольш здагадлівых, Сярожа, асцярожна разбіў слоік і вызваліў з палону баравічка.

Калі хлапчукі супакоіліся, я расказаў ім аб тым, як гэта ўсё-такі магло здарыцца. Аднойчы хтосьці з мясцовых жыхароў, накіроўваючыся ў лес (ён побач з вёскай), узяў з сабой слоік з вадой. Ваду выпіў, а слоік кінуў на лясную падсцілку. І трапіў ён якраз адтулінай на тое месца, дзе знаходзілася грыбніца. Праз колькі часу з грыбніцы пачаў вырастаць грыбок і паступова запоўніў слоік.

Выслухаўшы ўважліва мой расказ, хлопчыкі, задаволеныя, нібы тыя вераб'і, разляцеліся па дамах. Хтосьці з іх на хаду выкрыкнуў:

— Ну і цуды іншы раз бываюць у прыродзе!

**Васіль РАМАНІШКА.**



Салістка. Фота У. ВІТЧАНКІ і А. СЯНЦОВА.

## ПАЦЕШКІ

### КАЗА РАГАТАЯ

Ідзе каза рагатая,
Ідзе каза, ідзе,
Барадой трасе,
Малачко нясе.
Малачка хто не п'е —
Таго — бу! Забаду,
На рогі пасаджу.

### КУЮ, КУЮ НОЖКУ

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Дарожка крывая,
Кабылка сляпая.

Еду, еду, еду,
Ніяк не даеду.
Прыпрагу сароку,
Паеду далёка.
У новай кашулі,
Да майго дзядулі.

Скоранька паеду,
Каб паспець к абеду.
Дзед дасць піражочак
І сыру кусочак.

### ПАЕДУ Ў ДАРОЖКУ

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
За чатыры мілі,
Па масла, па сыры.

Дарожка крывая,
Кабылка кульгае.
Напраўлю цялежкі,
Паеду ў арэшкі.
Стану іх я трэсці,
Будуць дзеткі есці.

### ПАЙШОЎ КАТОК НА ТАРЖОК

Пайшоў каток на таржок,
Купіў сабе піражок
І табачкі ражок.
Сеў на калодзе
Ў добрай выгодзе:
І табачкі панюхаў,
І добрых людзей паслухаў.

### ЧУК-ЧУК-ЧУК

Чук-чук-чук,
Налавіў дзед шчук,
А баба — плотак
Ды пазвала цётак.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1246